№ 8 (150). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 25.IV.1939.

# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŠLACH MOŁADZI
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 8 (150). Вільня, 25 Красавіка 1939 г. Год XI.



## ЦІ КРАЙ НАШ БЕДНЫ?

Суседзі нашы стварылі ўжо такі пагляд, што землі, на якіх жывуць Беларусы, ёсьць вельмі беднымі. І прыходзіцца слухаць розных гутарак, у каторых часам і самі Беларусы праз сваю нясьведамасьць прадстаўляюць сябе, як нейкіх жабракоў. З гэтым наскрось фальшывым і паніжаючым паглядам пакрысе пробавалі некаторыя часапісы, а перад усім «Шлях Моладзі», змагацца, але дасюль рабілася гэта, недзе там — у канцы часапісу, на апошнім месцы. Здаецца аднак, што справу гэту трэба выцягнуць на адно з першых належных ёй мясцоў, бо пагляд аб беднасьці прычыняецца да губляньня ў народзе веры ў свае сілы і стварае жабрацка-нявольніцкі настрой. Дзеля таго абавязкам беларускіх эканамістаў ёсьць у як найхутчэйшым часе дакладна прастудыяваць, дасьледзіць і належна прадставіць эканамічнае палажэньне нашага краю і ягоныя натуральныя багацьці. Урэшце, ня трэба быць нават вучоным эканамістам, а толькі пільным наглядчыкам, каб пераканацца, што з намі ня ёсьць так кепска, як часта прадстаўляюць, а гэта йзноў прамаўляе за тым, каб больш мы цікавіліся справамі эканамічнымі.

Край наш зьяўляецца перад усім земляробскім і земляробства, нажаль, стаіць на вельмі нізкім ровені разьвіцьця. Ёсьць яшчэ мясцы, дзе людзі аруць сохамі. Грунты аднак ня ёсьць благімі, а наадварот, у некаторых мясцох, як у Наваградчыне, Горадзеншчыне, Меншчыне, Случчыне вельмі ўраджайныя, а хлеба хапае ня толькі для мясцовых жыхароў, але могуць быць вялікія запасы на продаж іншым народам. Разьвіцьцю земляробскай гаспадаркі спрыяе, між іншым, дагодны клімат і роўнамерныя атмасфэрычныя вопадзі, а стрымлівае яго недахоп земляробскае асьветы ў сялянстве. Пры земляробстве можна разьвіваць багатую жывёлагадаўляную гаспадарку.

Калі ходзіць аб натуральныя багацьці зямель, на якіх у большасьці жывуць Беларусы, дык яны дасюль амаль нікім не дасьледжаны і ніхто фактычна гэтым ня быў зацікаўлены. Перад сусьветнай вайной соль, нафту, жалеза, вуголь мелі мы з расейскіх капальняў. Цяпер у Польскім Гаспадарстве ёсьць так-жа вялікія здаўна чынныя капальні солі, вугля, жалезнае руды, нафты, каторыя знаходзяцца ў паўдзённых і паўдзённа-заходніх яго частках, даюць вялікія даходы і заспакойваюць патрэбы ня толькі ўсіх грамадзян, але абслугоўваюць загранічныя рынкі. Нават калі было ў 1938 г. далучана да Польшчы Заользе з вялізарнымі вугляными капальнямі, дык шмат хто з польскіх эканамістаў публічна выказваў клопат, дзе знайсьці рынак збыту на вуголь, якога так многа прыбыло. Дзейнасьці капальняў няма як стрымліваць, бо павялічылася-б беспрацоўе. — З тых аднак дасьледаў, якія былі на землях заселеных у большасьці Беларусамі, як у Польскім Гаспадарстве, так у граніцах СССР, ведама, што знаходзіцца там шмат розных багацьцяў. І так **жалезныя руды** спатыкаюцца ў вельмі многіх мясцох. Найбольш ёсьць бурага жалезьняка (лімоніту). Асабліва-ж пашырана і ведамая балотная жалезная руда. На дне Дняпра, каля м. Быхава, ляжыць значны пласт гэткае руды, называнае «скалой». У мінулым стагодзьдзі шмат дзе ў нас працавалі жалезныя гуты. Вельмі спрыяў гэтаму **торф**, каторы выступае ў нязьлічана вялікай кольказьці. Пры тагачаснай аднак тэхніцы выплаўляньня пры помачы торфу, жалеза выходзіла з вялікаю дамешкаю фосфару (бо фосфару шмат ёсьць у самой балотнай рудзе—вівіяніце) і з гэтае прычыны было яно крохкае і ня вытрымлівала канкурэнцыі з прывозным жалезам. Цяпер палажэньне моцна зьмянілася. Адкрыты бэссэмэраўскі спосаб выплаўляньня сталі прысутнасьць фосфару ўважае ня толькі ня шкодным, але карысным. Вартасьць торфу апошнім часам вельмі павялічылася. Ужываюць яго цяпер ня толькі як апал, але на торфе (замест вугля) працуюць цяпер электроўні. Так напр. у Нямеччыне электроўні працуючыя на торфе ў Візмор і Рюгле даюць у год 35 тысяч мільёнаў кілёватгадзін энэргіі. У Саветах таксама шмат працуе электрычных станцыяў на торфе (між іншым і на бел. землях у Бранску). З торфу робяць г. зв. тарфяны кокс, каторы пры спаліваньні дае гэтулькі-ж цяпла, што і каменны вуголь. Ужываюць яго ў горным промысьле пры тапленьні медзі і жалеза. У Нямеччыне ўжо 30 гадоў перарабляюць у Элізабэтгафэн торф на кокс. У тэй-жа Нямеччыне і Чэхіі ў некаторых мясцох езьдзяць аўтабусы гнаныя тарфяным коксам. Пры сухой дэстыляцыі торф дае 30—35 працэнтаў коксу, 3—6 прац. смалы, 30—40 прац. газавай вады і 20—30 прац. газу, ужыванага да асьвятляньня. З атрыманае смалы дастаюць яшчэ шмары, парафіну. Газавая-ж вада мае

ў сабе аманьяк, воцтавую кісьлю, дэнатурку, ацэтон і інш. Апрацоўваецца так-жа спосаб дабываньня з торфу нафты і бэнзыны. Апрача таго торф служыць да вырабу дарагога газу — вадароду, цэлюлёзы (патрэбнай у паперным промысьле), охры, з каторай робяць фарбы, ліналею, дражджэй і многіх іншых цэнных матарыялаў хімічнага промыслу. Для земляробства з торфу робяць штучныя гнаі — томас-шляк, або тамасоўку. Калі ўжо гутарка аб штучных гнаёх, дык трэба сказаць, што ёсьць у Наваградчыне, каля Горадні, Раслаўска і інш. мясцох **фасфарыты** — каменьні з вялікім зьместам фосфару, з каторых вырабляюць найцаньнейшы штучны фосфарны гной — супэрфасфат. Шмат дзе на нашых землях ёсьць **белая крэйда і вапна**, каторыя так-жа зьяўляюцца вялікім багацьцем.

У паўночна-ўсходняй Радавай Беларусі, на берагох Прыпяці ды ў іншых мясцох знойдзены даўно ўжо даволі значныя залежы **каменнага бурага (рудога) вугля**. У 1933 годзе Бел. Акадэмія Навук сьцьвердзіла што ў БССР ёсьць ня толькі **залежы вугля, але соль, серабро, нафта**, а так-жа **дыямэнты**. У XIX ст. каля в. Адрыянополя над Дзьвіною, пры беларуска - расейскае граніцы, знайшлі нават **золата**, каторага, праўда, было ня шмат. На Палесьсі знаходзілі няраз **бурштын**.

Апошнімі гадамі ў БССР у Гарадоцкім раёне выкрыты вялікія магнітныя аномаліі, каторыя цягнуцца шырокай паласой на 55 клм. на поўнач ад Віцебска і паказваюць на прысутнасьць там слаёў **магнітнае жалезнае руды**.

У Польскім Гаспадарстве натрапілі каля Вішнева і ў Налібоцкай пушчы **жалезную руду**. (Тут калісь былі нават жалезныя гуты). Знойдзена гэткую-ж руду каля Нясьвежа. Недалёка-ж Шчучына некалькі разоў натраплялі ў зямлі на **вялікія кавалкі солі**. А ў Навагрудку ў студнях, апошнімі днямі, сьцвярджана прысутнасьць **нафты**. Знаходкамі гэнымі зацікавіліся навукова-дасьледчыя інстытуцыі.

Усе пералічаныя факты зьяўляюцца найлепшым запярэчаньнем жабрацкасьці і беднасьці зямель заселеных Беларусамі. Да таго трэба яшчэ сьцьвердзіць, што вялікія багацьці ёсьць у лясох, рэках і вазёрах, але аб гэтым скажам іншым разам, разглядаючы промысел.

Я. Н.

## Міхасю Машары

*(У 10-я ўгодкі ягонай творчасьці)*

*Прыймі, Пясьняр, прывету словы,*
*Душы маей найшчыршы дар...*
*Табе я сяньня, ў дзень шчасьлівы,*
*Нясу паклон на Твой Аўтар!*

*Табе, любімцу творчай Музы,*
*Я гэту песьню-гімн пяю*
*І доўг, заслужаны дасужа,*
*Дастойнай чэсьці аддаю.*

*О, Друг Міхось! Тваe Ідэі*
*Зарой асьвечваюць мой шлях,*
*Бо ў нас задор аднэй стыхіі,*
*Адзін агонь... і сум, і жах.*

*Хоць на шляху сваім жыцьцёвым*
*Пражылі розных бедаў шмат,*
*Ты мне па думцы і па слову*
*І блізкі друг, і родны брат.*

*Хоць сяньня зло кіруе сьветам,*
*Хоць горыч злосьці пеніць шал...*
*Усё-ж зазьзяе сонцасьветам*
*Наш Вечнай Праўды Ідэал...*

*І ўсё-ж загоіць свае раны*
*(Аб гэта толькі я малюсь!)*
*Табой у песьнях апяваны*
*Гаротны Край наш, Беларусь!*

*А. МІЛЮЦЬ*

## ВОЛЬЧЫНЫ ДУМКІ

*(З цыклю: беларускія жанчыны сучаснасьці)*

Усходзіла сонца... Вольку ўжо пабудзілі, каб гнала каровы і яна дрыжачымі ад халоднае раньняе залчыні рукамі хутка апраналася ў старую сукеначку і абвязвала галаву сіняй канаплянкай. У вачох чула яшчэ пясок недаспанай ночы і пазяхала. Ад старой сваей бабкі ўзяла прыгатаваную ўжо торбачку з хлебам і выбегла на вуліцу, дзе цялё пачынала жаваць сьцягнутыя з плоту анучы.

— Янчышынай цялушкі не забудзься заняць, яна-ж у іх асобна стаіць! — крычала бабка ўсьлед.

Волька борзьдзенька гнала жывёлу, каб самой сагрэцца, ды агулам сьпяшалася, бо таварышкі яе ўжо сядзелі на камені ў лужку, дзе каровы скубалі маладую, з расою траву. Незадоўга знайшлася пры іх і Волька. Лужок быў каля дарогі за вёскаю, парослы дзе-ня дзе маладымі кустамі — вольхамі і прыбраны ад дарогі большымі і меншымі каменьнямі, быццам сумысьля на супачынак пастушком.

Сонца ўжо паказалася з-за далёкага туманнага бярэзьніку і даўгімі ценямі вольхаў разьлілося па серабрыстым расяным куп'і, якое дыхала яшчэ цішынёй вясьнянае ночы. Жывёліна час-ад-часу рыкала, пастушкі перакліkaліся, ад вёскі нясьліся галасы пеўняў, а ў гары зьвінеў жаўранак. І ўсё гэта зьлівалася ў вадну вялікую гармонію вясковай раніцы і ўздымалася разам із паруючай расой да сініх прастораў...

Зямля яшчэ была мокрая, дык Волька села на камені і моцна задумалася. У яе дзіцячай трынаццацігадовай галоўцы шмат месца займала школа. Жыла Волька ў беднай паднаваградзкай вёшчыне, у пяцёх кілямэтрах ад рухлівага мястэчка. Чатыры аддзелы пачаткавае школы скончыла ў суседняй вёсцы, а дзеля таго, што вучылася добра, бацька ня гэтулькі з пераканаіньня, колькі дзеля супакаеньня свае амбіцыі даў „дазвол на вышэйшую адукацыю" ў мястэчку. Вось ужо дзьве зімы выхадзіла. Усяк было. Часам падвозілі пры аказіі суседзі і падарожныя, менш бацьба, бо — „дзе-ж там яшчэ каня запрагаць дзеля гэтае жабы" — гаварыў, і найчасьцей Волька пехатой мясіла прамоклымі нагамі гразь, або сьнег.

— Як гэта будзе ў сёмым? — клапацілася яна, — ды ці бацька пусьціць хадзіць у школу зімою. Ну й дрэнна-ж было гэты год у шостым, а як-жа цяжка хадзіць сьнегам! Добра, што йшчэ дзядзька Сяргей часьценька падвозіў, езьдзячы ў мястэчка на работу, але цяпер і яго ня будзе, — мусіць паедзе туды, у гэную Аргентыну... Ах-ёй, то-ж і забылася на сягоньня навучыцца вершаў!... Як гэта ён пачынаецца?.. Ага! ...„Do Lwowa, Wilna, czy Poznania«...Не! неяк інакай. Вось:

# ВЯЛІКДЗЕНЬ

З пагоратым барознамі тварам, стаяла нясьмела ў дзьвярох...

— Хоць пару хвунцікаў прыварку, хоць кошык бульбінаў. Адраблю вясной — летам. Гэта-ж у хаце ані на лыжку стравы... Дзеці малыя!

Не гаварыла, скуліла з немаю роспачай у вачох.

— Пашкадуйце!

Франук Гародка скасіў пагардліва зубы і прамарматаў:

— Годзі. Адрабі хаця тое, што ўпярод даў. Няма ў мяне! Дзеці! — У мяне свае дзеці ёсьць! Нядай-бы ня йшоў у лес красьці, дык цяпер не сядзеў-бы ў вастрозе. Зладзюжына!.. — бразнуў, быцам біцом, славамі ў твар жанчыны.

Маўкліва павярнуўшыся пайшла.

Вуліцай дзіка скавытаў віхор. Лютаваў апошнімі сваімі подыхамі мароз.

Заўтра Вялікдзень. З комінаў разам з парывамі ветру заскакваюць розныя смакавітыя пахі. Вёска прыгатаўляецца да сьвята.

У Міхася Батрака валачобная проба. Вывучваюць валачобныя песьні, а сам Міхась памагае ім на скрыпцы. Заўтра дванаццацёх, як заўсёды, пойдуць ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі славіць Вялікдзень і ўваскросшую вясну. І будуць іх абдорваць хаты за пажаданьні памысныя, за павіншаваньні, за варожбы гаспадарскія з радасьцяй вялікай А пасьля? Пасьля ня будзе ігрышча, як рабілася даўней за сабранае валачобнае. Даволі гулянак! Там вось, у канцы сяла, з галоднымі дзяцьмі ў хаце Мальвіна. Пойдзе валачобнае на галодных дзяцей. — Так пастанавілі хлопцы.

* * *

Вызарылася начное неба. Цішыня. Спалі сьвяточным сном хаты. Недзе толькі ў канцы сяла загопаў бубен і ў начную цішыню рванула радасная, разьліўная песьня:

Добры вечар, дзядзька-гаспадару,—
Віно, віно зеляно!

— — — — — —

Грымела песьня. Залівалася скрыпка. Славілі так-жа і вялікага сонечнага Ярылу:

Сам Ярыла канём едзе, —
Віно, віно зяляно.
З гоняў поля — жыта клеці.
Віно, віно зеляно.

Абудзілася вёска. Бразгаюць адчыненыя дзьверы.

— Валачобнікі, валачобнікі прыйшлі!

А песьня ўжо разлягалася пад другою хатаю:

У дзядзькі Мацея залата пава,
Віно, віно зеляно.
Ня пава, павуня, малада дачка —
Віно, віно зеляно.

Гамоніць, заліваецца шалакотамі бубен:

Віно, віно зеляно!..

Сьціхла песьня, замоўк бубен, затараторыў прыгаворшчык:

Валачобнікі Вам не дакучылі,
Раз толькі ў годзе пабывалі,
Просім ўсіх нас абдарыці,
Валачобным угасьціці;
Больш ня просім, як пар восем,
Белым сырам аблажыці,
Каўбасою абкружыці!..

Праз адчыненае вакно дзявочыя рукі падавалі на белай талерцы валачобнае.

І йзноў песьня разлягаецца.

Але, вось і хата Франука.

— Што-ж, сьпяём і яму?

— Пэўна! Хай знаюць людзі.

Грозна грукнуў бубен, а з вуліцы рванула ўрываная мэлёдыя:

Каб на тваей хаце крапіва расла,—
Віно, віно зеляно.
Каб твая жонка у палі пайшла, —
Віно, віно зеляно...

— — — — — — — —

Хмурна маўчаў праклінаны песьняю цёмны будынак, толькі на ланцузе рваўся Франукоў сабака...

Жорстка мсьціліся валачобнікі за бедную Мальвіну і скупасьць Франука...

*С. Хмара*

**Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi“ — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.**

**Памятуйма, што свая беларуская інтэлігенцыя найлепш дбае аб дабро для свайго Беларускага Народу!**

„Gdzie zdrada chytrą twarz wyłania“... тут ня памятую — „do Lwowa, Wilna, czy Poznania, jednaś Ty“... Яшчэ там было нейк: — „przyszłość ojczyzny wszak to my“. Гэта памятую, бо на’т высьняла бацьку, што значыць. А па праўдзе... дык я й сама добра ня ведаю, што гэта такое. „Ojczyzna“ — гэта мусіць панашаму бацькаўшчына...Ды лепш не дадумывацца... Але чаму ад Вільні да Пазнаня? Сам-жа-ж пан кіраўнік казаў, што ў Пазнаншчыне іншыя людзі, наўчоныя і гавораць інакш, —папольску.. —

І Волька доўга мучылася ў думках. Дзіцячую яе душу таміла дагадка нечага неразьвязанага... Перажываньні Вольчыны былі тым цяжэйшыя, што яе веда, школьнае ўзгадаваньне блытала чыстую, самародную думку аб сучасным жыцьці бацькоў і цэлае вёскі, а так-жа сямейная нядоля. Памятуе, як цяпер, калі памірала матка, пакінуўшы малое дзіцё, сястрыцу Верку. Памерла маці,—як ёй пасьля гаварылі бабы з вёскі,—ад нячыстай і няўмелай бабкі-знахаркі. І тады і цяпер, калі хто ўспамінае з праклёнамі лекі гэнае знахаркі, Вольцы дзіўна няпрыемна робіцца ў душы, бо й што-ж—бабка тая й сама мо’ ня ведала, што можа сілком у дамавіну сваімі лекамі загнаць. Цемната найбольшым тут віноўнікам была.

Сяньня, як і часта ёй гэта здаралася, Волька з прыемнасьцю адарвала ўвагу ад цяжкіх сваіх думак на вясёлыя крыкі таварышак, каторыя беглі да дарогі, дзе паказаліся з-за кустоў вольхі два вазы.

— Сяргей едзе! Дзядзька Сяргей! А-аа! Із Маняю! Цётка Маня, чаго-ж ты плачаш?

Волька таксама, падбегшы ўжо да вазоў, плакала хватаючы за руку Сяргеіху і малога Кастуся.

— Цётачка, у Аргентыну? Такі едзеце? Ды ўжо? У—уу! І чаго ты туды, ты-ж гэтак не хацела!... —

Чула, што цётцы Мані сталася крыўда, але йзноў ня ведала, чаму. Ня цяміла, чаму магло быць ёй гарэй там, за морам, дзе будзе больш зямлі, свабадней, толькі не хапаціме мо’ брудната панадворку, ды злоснай сьвякрухі. Бедная Маня! Ні яе, ні Сяргея ня любіў стары Сымон, бо нявестка не па яго была выбару, пры тым Сяргей часта меў розныя пратаколы... Дык пастанавілі выехаць згэтуль, карыстаючы з дагоднай умовы, якая абавязвала іх у гэтую дарогу і на навасельлі.

— Бывайце!.. І пашто гэта трэба Вам туды ехаць? Цётачка!.. Але, мо’ вам і лепш тамака будзе, толькі што сумна... І нам сумна, што вы... за морам будзеце, але не забывайцеся аб нас...

*Тацянка*



# Albanija i jaje dola

7-ha krasavika, za dva dni pierad Vialikadniem, radyjo abvieściła ŭsim tryvožnuju viestku ab niaroŭnaj aružnaj baraćbie na Bałkanskim paŭvostravie. Heta Albancy hierojska baranilisia ad italjanskaha vojska, jakoje zajmała ich niaje haspadarstva Nievialikija albanskija siły nie zmahli adnak strymać mahutnaje fašystoŭskaje armii i Albanija pierastała isnavać, jak niezaležnaje haspadarstva, a stałasia italjanskaj kalonijaj. Hetkaja ŭžo siańnia ŭvajšła ŭ žyćcio moda, što silniejšyja haspadarstvy, što chočuć, toje j robiać z narodami i haspadarstvami słabiejšymi.

Albanija, imienna, była nievialikim haspadarstvam. Zajmała jana abšar kala 28.000 kv. klm., žycharaŭ-ža mieła 1,200,000 asob. (Pryblizna takaja, jak Vilenskaje vajavodztva, katoraje zajmaje 29,000 kv. klm i maje 1,276,000 žycharoŭ). Kraj hety raspałažany nad Adryjatyckim moram, na Bałkanskim paŭvostravie, siarod mnohich horaŭ. Hraničycca z Juhasłavijaj i Hrecyjaj. U historyi Albanija viedamaja ŭžo za niekalki stahodździaŭ pierad naradžeńniem Chrysta. Albancy, ci jak siabie jany nazyvajuć Škipary, naležać da siamji narodaŭ inda-eŭropejskaj, padzieleny byli na try plemiani: Gogaŭ, Toskaŭ i Mirdyčan, ale ŭžo pierad naradž. Chrysta źjaŭlalisia sucelnaj nacyjaj. Doŭhija adnak hady niavoli i roznyja čužyja ŭpływy tak raźbili hety narod, što paśla jon sam nia viedaŭ, jak siabie nazvać i navat nacyjanalnaść aznačali relihijaj, tak, jak heta časta ŭ nas Biełarusaŭ byvaje.

Samastojny svoj byt stracili Albancy ŭ hłybokaj minuŭščynie viadučy baraćbu z Rymam. Ad Rymu adbili ich dzikija Baŭhary, paśla apanavali albanski kraj Hreki. Niejki čas byŭ jon pad uładaj Serbaŭ, a ŭ 1379 h. zavajavała Albancaŭ Tureččyna i trymała ich u niavoli až da 1912 h. Z Turkami Albancy časta i zaŭziata baranilisia, asabliva ŭ XV i XX stahodździach. Za časoŭ navat słaŭnaha albanskaha hieroja Skander Bega Albanii ŭdałosia vyzvalicca ad Turkaŭ i ad 1444 h. da 1476 h. žyła jana samastojna i niezaležna.

Novuju epochu ŭ historyi Albancaŭ pačaŭ 1912 h, kali ŭ vyniku Bałkanskaj vajny Albanija stałasia jznoŭ niezaležnym haspadarstvam. Praŭda, Albancy, jašče raźbityja na roznyja arjentacyi pavodle relihii (68 pracentaŭ Albancaŭ — mahametanie, 21 prac. — pravasłaŭnych i 11 prac. — katalikoŭ), ale ŭžo što raz chutčej pazbyvajucca čužych upływaŭ. Suśvietnaja vajna nie dała adnak Albanii ciešycca niezaležnym bytam, bo ŭ 1914 hodzie zajmajuć jaje čužyja vajskovyja siły, a ad 1917 h. Italija choča ŭstanavić tam svaju ŭładu, ad katoraje Albancy ŭsimi siłami baranilisia.



Karol Albanii Achmet Zogu

Urešcie ŭ 1920 h. Albanija jznoŭ stałasia niezaležnym haspadarstvam, akančalna ačyščajecca ad čužych upływaŭ, zavodziačy svoj ład i dabrabyt. Raźvivajecca albanskaja litaratura, kultura, a Albancy biaz roźnicy vieravyznańnia łučacca ŭ adnu nacyjanalnuju svaju siamju i starajucca ŭmacavać svajo haspadarstva. Vialikuju dziejnaść u hetym prajaviŭ Achmet Zogu, jaki spačatku byŭ prezydentam, a ad 1928 h. abvieściŭ siabie karalom Albanii. Ciapier prymušany byŭ jon uciačy zahranicu.

Albanija, choć nievialikim była haspadarstvam, ale ŭściaž pryciahvała ŭvahu Italii, katoraja davała navat joj hrašovyja pazyki. Jasna, davała jana nia dziela svajho dobraha serca, a dziela taho, kab umacoŭvać tam svaje ŭpływy i plany. Za italjanskija hrošy byli pierad usim budavanyja darohi, stalica Albanii m. Tirana i port Durazzo, katoryja ciapier Italija vykarystaje dla metaŭ čysta vajskovych. Apračа taho, Italija chacieła dabracca da nafty, jakoje ŭ Albanii jošć davoli mnoha, dastajuć jaje tam u hod kala 400,000 ton. (U Polšči ŭ hod dastajuć nafty kala 500,000 ton). Maje Albanija i inšyja bahaćci, ale najbolš pryciahvajučaj Italjancaŭ była nafta, jakaja vielmi patrebnaja taksama dla armii — dla metaŭ vajennych. Z hetaha vidać, što zaniaćcie Albanii dla Italii, a hetym samym i dla vosi Rym-Berlin, maje vialikaje vajennaje značeńnie. Zaniaŭšy Albaniju, Italija i Niamieččyna akružyli Juhasłaviju, umacavali svaje pazycyi na Mižziemnym Mory i na Bałkanach, praz jakija majuć namier iści na ŭschod u kirunku Indyi i Kitaju, dzie ŭžo daŭno Japonija zmahajecca nia tolki z Kitajcami, ale z upływami Anhlii, Ameryki i Francyi.

Źmiennaja dola, jak bačym, pakinuła Albaniju na vykarystańnie mahutnym hetaha śvietu. Adnak, nia hledziačy na ŭsio, pałažeńnie Albanii daloka bolš nadziejnaje, čymsia hadoŭ sto tamu, dziela taho, što albanski **narod śviedamy nacyjanalna, adrodžany i abjednany,** a kali tak, dyk i dola jaho ŭ toj ci inšy sposab, nia siańnia, dyk zaŭtra napeŭna palepšycca.

**Z. B.**

* * *

*Вясна, вясна, прыйдзі скарэй,*
*Сагрэй ты сонцам зямлі гладзь!*
*Пара яму сьвяціць ясьней,*
*Свой мілы кінуць скрось пагляд.*

*Пара табе, красуня цуд,*
*Пачаць прыроду убіраць*
*І над зімой зрабіўшы суд*
*Яе далёка праганяць.*

*Ўжо птушкі вольныя лятуць*
*Здалёк у наш радзімы край*
*І павясьнянаму пяюць —*
*Зірні вясна — іх прывітай!*

*Ўкрасі сады у белы цьвет,*
*Пакрый зялёнасьцю лугі,*
*Няхай сьмяецца цэлы сьвет,*
*Ськідае чар зімы-тугі.*

А. СУЧОК

* * *

*Веру... вясну спатыкаць*
*Песьняй кіпучаю будзем,*
*Слоў недаказаных гаць*
*Пусьцім — сагрэўшы студзень.*

*Вырвуцца громам агні,*
*Ў даль з пад напушчаных броваў.*
*Новыя, ясныя дні*
*Прыйдуць напевам сталёвым.*

*Вецер гартоўных грудзей*
*Сонныя згоніць туманы.*
*Красками новых надзей,*
*Час зацьвіце пажаданы.*

*Веру: вясну спатыкаць*
*Песьняй кіпучаю будзем.*
*—Эх! пачалі расьцьвітаць*
*Новымі сьпевамі грудзі!*

М. КРЫВІЧ

# Kraina, jakoj kirujuć fašysty

(*Piśmo z Rymu*)

Vielmi Pavažany Redaktar!
Dziakuju Vam za prysyłanyja mnie biełaruskija hazety. Čytaju ich, jak šopat rodnaj ziamli, jak słovy rodnaj maci; pryjmaju ich, jak znak žyćcia biełaruskaha brata, katory pračchnuŭsia i paznaŭ siabie.

Bliska mianie prachodziać niazvyčajnyja padziei. Dynamika Italjancaŭ i zaŭsiodnaja ich napružanaść, šukańnie ŭściaž novaha i byccam niejkaja niapeŭnaść budučyni, a z druhoj starany prastoł Papy, staradaŭny svajej praŭdaj i tradycyjnymi zvyčajami — naviavajuć mnoha dumak.

Hetym razam chacieŭ-by ja koratka pradstavić Italiju.

Nad bierahami Mižziemnaha Mora, na soniečnym, ciopłym Apeninskim paŭvostravie ležyć pryhožaja harystaja kraina, zvanaja Italijaj. Kraj hety słaŭny viečnym miestam Rymam — centram Chryścijanstva — zajmaje 310 tysiač kv. klm. i maje 42 miljony žycharoŭ. Aprača hetaha Italija maje vialikija kalonii ŭ Afrycy i niekatoryja astravy na Mižziemnym Mory (Rodas i 12 astraŭkoŭ Dodekanez). Najbolšaj kalonijaj u sučasny mament jość Abisynija, jakaja zajmaje 1 miljon kv. klm. i maje kala 8 miljonaŭ žycharoŭ; dalej Libija, Somalija, Erytreja, dy ŭrešcie apošnimi dniami italjanskaj kalonijaj stałasia Albanija. U kalonijach henych znachodziacca vializarnyja bahaćci, asabliva ŭ Abisynii, dzie jość zołata, sol, vuhol, dy dzie vielmi rodzić kava, kukuruza, vinahrad, tytun, bavoŭna i inš.

Sama Italija źjaŭlajecca krajem ziemlarobska-pramysłovym. Hadujuć tut tak-ža aviec, kozaŭ; łoviać ryby. Z naturalnych bahaćciaŭ jość krychu brunatnaha vuhla, nafty, žaleznaje rudy, sierki, soli, mnoha marmuru, alebastru; jość krychu rtuci i inš. Mnoha Italjancy majuć dachodaŭ z pieknaty svaich miascovaściaŭ, jakija ściahvajuć mnostva roznych padarožnikaŭ-turystaŭ.

Najbolšym miestam i stalicaj Italii jość Rym, čaść jakoha vydzielena z abšaru italjanskaha haspadarstva zajmaje Vatykan — nievialikaje, niezaležnaje haspadarstva Katalickaha Kaścioła. Charakterna, što ŭ Italii jość nadta mnoha małych miastečkaŭ. Žychary-ž Italii ŭ bolšaści (47,3 prac.) zajmajucca ziemlarobstvam, a tolki 29,6 prac. promysłam, 12,9 prac. handlam i 12,2 pracentaŭ inšymi zaniaćciami. Z bolšych miestaŭ najvažniejšym jość Miłan (992 tys. žych.), Neapol (839 tys. žych.), Genua, Turyn, Palermo, Florencyja i vielmi strojnaja Venecyja.

Italjancy naležać da hrupy narodaŭ romanskich i hetym źjaŭlajucca svajakami Francuzaŭ, da katorych adčuvajuć, nia hledziačy na apošnija roźnicy ŭ palitycy, vialikuju sympatyju.



Dyktatar Italii B. Musolini

Narod italjanski maje svaju staruju i vielmi cikavuju historyju, ale ab joj inšym razam, ciapier zaznačym tolki, što Italija kaliś była padzielena na roznyja małyja pravincyi—haspadarstvy. Pačuccio etničnaj supolnaści i imknieńnie da palityčnaj jednaści dla žycharaŭ Italii jość daŭnym. Stałasia adnak faktam tolki ŭ prošłym stahodździ, kali Viktar Emmanuel II nazvaŭ siabie karalom usiej Italii (1861 h.). Patomak jaho i siańnia ŭvažajecca karalom i ŭładarom, ale ŭ sapraŭdnaści ad 1922 h. trymaje ŭsio ŭ rukach Benito Musolini i jahonaja partyja fašystaŭ. Miž inšym fašyzm pryčyniŭsia da poŭnaha źlićcia žycharoŭ Italii, katoryja niamała roźniacca miž saboj historyčnymi tradycyjami i jazykom. Fašysty chočuć tak-ža vyrašyć socyjalnyja zadačy. Imknucca da hetaha kasujučy vialikija haspadarki abšarnikaŭ, a zavodziačy siarednija. Uziali jany ŭ svaje ruki aśvietu, promysieł, handal i starajucca pašyrać svaju ŭładu jak najdalej,navat u čužych krajoch. Čornaja kašula z sinim łaskutkom (forma ŭboru fašystaŭ) usiudy siańnia kiruje i vaładaryć. Fašystoŭskaja arhanizacyja mnoha čaho dla voka robić efektoŭnaha, ale ŭsio-ž nie raźviazała jana biezraboćcia; nie pazbylisia Italjancy chraničnaj biednaści, nia žyvuć tak, jak chto chacieŭ-by, ale tak musiać žyć, jak prykazana zhary. Nia hledziačy na słaŭnuju kulturnuju minuŭščynu, 7 prac. žycharaŭ Italii źjaŭlajucca analfabetami. Pry hetym usim vajennaja napraŭka i vajenny nastroj paśla zaboru Abisynii (1936 h.) ani čuć nia źmienšylisia, a što-raz bolš uzrastajuć. Hłytaje heta ahramadnyja sumy hrašej, stvaraje nervovy rytm žyćcia i abiadniaje kraj. Ciapier u Italii zmabilizavana kala 2 miljonaŭ žaŭnieraŭ.

Treba adnak skazać, što mima biednaści kraju, mima režymu — narod italjanski nia hublaje zaŭsiodnych svaich prymietaŭ: mastackaha palotu, dabradušnaj viasiołaści i ščyraj katalickaj relihijnaści.

**Vasil Kryvičanin**

* * *

*Šlacḥam prostym, ḥej, napierad!*
*Praz niadolu, praz ciamru!*
*Z mocnaj siłaj, ćviordaj vieraj*
*Pojdziem śmieła pad ḥaru!*

*Cḥaj bušujuć vietry, bury,*
*Biazupynna ḥrymić ḥrom!*
*Hej, napierad, śmieła ŭ ḥoru,—*
*Ščaście praŭdy tam znajdziom!*

*I ništo nas nia strymaje*
*Šlacḥam tym iści ŭḥaru,*
*Tam, dzie sonca sustrakaje*
*Aḥniaćvietnuju zaru.*

Z. K.

## Думка пільшчыка

*Зьвініць піла, вужакай гнецца,*
*Зьвініць піла... рука трасецца,*
*Астаткі сілаў выціскае*
*На чорны хлеб так зарабляе...*

*Зьвініць піла, у дрэве енчыць,*
*Сукі грызе яна і дрэнчыць...*
*Аж зубы скрыгатам сьцікае,*
*У грудзях стогнам адбівае...*

*Ох! Колькі-ж хвояў прадамною*
*Стаіць з высокай галавою!*
*На іх глядзіць піла тупая..*
*—Ох, колькі мук мяне чакае.*

С. ЯРЫНА

## Прыпеўкі да полькі

*Годзі, годзі мне ўжо плакаць,*
*Годзі, годзі сьлёзы ліць;*
*Трэба польку драбней маку*
*Пад гармонік закруціць...*

*Хай разбудзіцца надзея,*
*Радасьць ўзыйдзе на душу...*
*Бяду вецер хай разьвее*
*А я польку прыпляшчу.*

*Хай на сэрцы лёгка стане,*
*Думка долі працячэ.*
*Жыцьцё маё хай ня вяне,*
*А красачкай зацьвіце.*

А. ГАЦУРА

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Ministerstva Nutranych Spraŭ nie zaćvierdziła statutu Biełaruskaha Sajuzu Abstynentaŭ.** Hod tamu ŭ Vilni paŭstała dumka sarhanizavańnia Biełaruskaha Sajuzu Abstynentaŭ. Dziela taho byŭ apracavany adpaviedny statut i padany ŭ Vilenski Vajevodzki Urad na zaćvierdžańnie. Vajevodzkija ŭłady statutu hetaha nie zaćvierdzili. Tady zakładčyki adklikalisia da Ministerstva Nutranych Spraŭ, adnak i tam henaha statutu nie zaćvierdzili. Biel. Sajuz Abstynentaŭ mieŭ na mecie viaści akcyju suproć pjanstva i kureńnia tytunu, — hetych škodnych źjaviščaŭ čałaviečaha žyćcia, jakija robiać ahramadnaje źnistažeńnie, jak maralnaje, tak i matarjalnaje. Nia hledziačy na niaŭdačy z Biel. Sajuzam Abst., baraćbu z pjanstvam i kureńniem treba pravodzić usiudy, jak chto moža,— samatuham.

**Niadobryja viestki.** Siarod vilenskich Biełarusaŭ, a navat i ŭ presie, pajavilisia čutki ab likvidacyi Vilenskaje Biełaruskaje Himnazii. Viestkam hetym prosta nia chočacca vieryć. Bo, prosta, nie mahčyma zrazumieć, kab tady, kali Biełarusy damahajucca bolš biełaruskich škołaŭ, była dumka źlikvidavać apošniuju biełaruskuju himnaziju, katoraja faktyčna mała ŭžo čym roźnicca ad himnazijaŭ polskich, bo biełaruskaści ŭ joj amal zusim niama, adno tolki biełaruski jazyk astaŭsia.

**Ks. Ad. Stankievič i inž. Ad. Klimovič u Vilni.** Vysielenyja z Vilni i Vilenščyny ks. Adam Stankievič i inž. Adolf Klimovič z dazvołu vajavodzkaj ułady adviedali Vilniu. Inž. Klimovič pryjaždžaŭ da svajej siamji, a ks. Stankievič byŭ paklikany Apelacyjnym Sudam u charaktary śviedki na sud D-ra H. Dembinskaha, S. Jendrychoŭskaha i inš. Ks. A. Stankievič skarystaŭ z hetaj nahody i jeździŭ u svaju rodnuju viosku ŭ Ašmianščynu.

**Biełaruskaja Pilihrymka ŭ Kalvaryju.** Za prykładam minułych hadoŭ Biełaruskaja Pilihrymka ŭ Kalvaryju pad Vilniaj adbudziecca sioleta ŭ pieršuju niadzielu miesiaca červienia, heta znača: u niadzielu 4 červienia. Pilihrymka vyjdzie z Vilni, z kaścioła śv. Mikałaja, ranicaj paśla nabaženstva. Usim učaśnikam biełaruskaje pilihrymki z vioski budzie pryhatavanaje biaspłatnaje pamieškańnie na načleh. Zborny punkt u Redakcyi „Chryścijanskaje Dumki"—Vilnia, Zavalnaja 1. Bolš padrobnyja infarmacyi padamo ŭ nastupnym numary. Usich Biełarusaŭ zaklikajem zahadzia pryhataŭlacca i staracca pryniać udzieł u svajej Biełaruskaj Pilihrymcy.

**Padtrymańnie z vioski.** Na viestku ab pryhatavańni da druku novaha zbornika vieršaŭ Michasia Mašary, moładź z vakolic Łužok zaraz-ža sabrała i prysłała ŭ redakcyju „Šlachu Moładzi" 11 zł., na padtrymańnie vydaviectva hetaha zbornika. Śviedčyć heta ab vialikaj nacyjanalnaj śviedamaści i achviarnaści henaje moładzi, a tak-ža ab vialikaj papularnaści našaha pieśniara Michasia Mašary.

**Vyjezd Kuratara Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu.** Daviedvajemsia, što 22.IV. vyjechaŭ z Vilni ŭ Niamieččynu prafesar Vilenskaha Universytetu Ervin Koschmieder, jaki byŭ kuratar(a)m-apiakunom Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu. Praf. E. Koschmieder z pachodžańnia Niemiec, ale dasiul byŭ jon polskim hramadzianinam. Zaprasiŭ u Niamieččynu jaho, jak specyjalista slavianaznaŭstva, na prafesara adzin z niamieckich universytetaŭ.

**Tydzień Prapahandy Muzejaŭ.** Sajuz Prapahandy Turystyki sarhanizavaŭ u Vilni ad 23 da 30 krasavika sioleta Tydzień Prapahandy Muzejaŭ. U hetym časie asablivaj papularnaściaj ciešycca Biełaruski Muzej im. Ivana Łuckieviča ŭ Vilni, dzie hetulki byvaje adviedyvajučych, što kiraŭnictva Muzeju nia moža paśpieć davać pajaśnieńni. Dziela taho da pomačy paklikana niekalki studentaŭ. Chto dahetul nia byŭ u Biel. Muzei, radzim heta abaviazkava zrabić. U Tydzieŭ Prap. Muzejaŭ Biel. Muzej adčynieny ad 10—12 i 16—18 u budzionnyja dni i ŭ niadzielu— ad 11 da 14 hadz.

**Z vydavieckaje nivy.** Hetymi dniami ŭ Vilni vyjšła z druku vielmi cikavaja i cennaja knižka z cyklu «Biełaruskaja Ziemlarobskaja Biblijateka» p. n. *„Чаго патрабуе зямля"* — karotkaje vyjaśnieńnie dziela navuki maładym haspadarom ab hnajeńni. Napisaŭ jaje ahranom V. Sazanski, źbiełaruščyŭ A. K. Knižka maje 28 bačyn, z ilustracyjami. Cana 20 hr. Vydańnie „Samapomačy". Kožnamu maładomu a tak-ža i starym biełaruskim haspadarom radzim z jej paznajomicca.

**Novyja mataryjały z biełaruskaj litaratury.** Biełaruskija sa-

**Šv. † p. Antoś BABOK**
siabra b. Hurtka Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ m-ku Žodziškach Vialejskaha pav., šmathadovy skarbnik i biblijatekar hetaha-ž hurtka, idejovy pracaŭnik na narodna-aśvietnaj nivie pamior ad suchotaŭ u sakaviku 1939 h. u poŭnym raśćviecie maładych siłaŭ.
**Češć Jaho pamiaci!**

vieckija daśledčyki, pracujučy nad novym padručnikam pa historyi biełaruskaj litaratury (staryja biełaruskija padručniki dziela palityčnych pryčyn kamunistyčna-maskoŭskimi ŭładami skasavany i skanfiskavany!) znajšli ŭ leninhradzkich archivach novyja mataryjały: znojdziena niekalki bytavych paem niaviedamych aŭtoraŭ z pačatku XIX stahodździa, čarod tvoraŭ biełaruskaha narodnaha hieraičnaha epasu, pa niekalki nidzie niadrukavanych tvoraŭ biełaruskich piśmieńnikaŭ z kanca XIX st., u tym liku i tvory Fr. Bahuševiča. Pavodle dumki henych daśledčykaŭ, biełaruskija litaraturnyja tvory jošć i ŭ maskoŭskich archivach.

**Biełarusy ŭ Arhientynie.** Da nas dajšli paciašajučyja viestki ab žyćci biełaruskaj emihracyi ŭ Arhientynie (Paŭdzionnaja Ameryka). Pavodle hetych viestak Biełarusy ŭ Arhientynie arhanizujucca. Isnuje ŭžo ŭ stalicy Arhientyny — Buenos-Ajres — kulturna-aśvietnaja arhanizacyja Biełarusaŭ — Biełaruskaje T-va „Kultura". Pry arhanizacyi isnuje chor. Niadaŭna T-va „Kultura" zarhanizavała pieršaje biełaruskaje pradstaŭleńnie ŭ Arhientynie. Byli z udačaj adyhrany biełaruskija p'jesy: „Mikitaŭ łapać" i „Ptuška ščaścia". T-va „Kultura" naličaje ŭžo kala 180 siabroŭ.

**Biełarusy ŭ Litvie.** „Лит.Вѣст." padaje, što 10.III.39 u Jonavie (Litva) adbyłosia biełaruskaje pradstaŭleńnie naładžanaje dramatyčnaj sekcyjaj Biel. Kult.-Aśvietnaha T-va ŭ Litvie. Stavili kamedyju „Piarestaja krasula". Publiki było vielmi mnoha.

## Usiačyna

**NAFTA Ŭ NAVAHRADKU.** U časie chimičnaje proby vady z niekalki studniaŭ u Navahradku śćvierdžana, što jość tam nafta. Paćviardžaje heta viestki miascovych žycharoŭ, što Navahradak i jaho vakolicy raspałožanyja na hruncie, jaki ŭ svajej hłybini maje mineralnyja alei, katoryja, kali dzie vystupajuć u bolšaj kolkaści, stanoviać vialikaje bahaćcie.

**Biełarus zrabiŭ novy paravoz.** Žychar Słonima Todar Pukała, pry finansavaj pomačy Haŭlasa Karala, zrabiŭ paravoz, jaki pracuje i paraj i hazam. Vynachodčyk razam z svaim finansistam jeździli z zroblenym madelam paravozu na vystaŭku ŭ Paznań, dzie atrymali ad Ministerstva Promysłu i Handlu dyplom, „ochronne świadectwo" i niemałuju hrašovuju naharodu. Novym paravozam biełaruskaha vynachodčyka zacikaviłasia fabryka paravozaŭ Cehielskaha ŭ Kutnie.

**Na rabotu ŭ Łatviju i Estoniju** vyjechała sioleta z našaha kraju kala 10 tysiač čałaviek.

**Kolki žycharoŭ maje SSSR.** U studzieni miesiacy sioleta ŭ SSSR adbyŭsia ahulny śpis žycharoŭ, pavodle jakoha jość tam ciapier 170,126,000 asob. Cikava, što ŭ 1926 h. lik žycharoŭ SSSR, pavodle savieckaje statystyki, byŭ — 161 miljon. Narmalny pryrost pavodle tych-ža savieckich danych u hod davaŭ 3 miljony novych žycharoŭ. Takim čynam za 13 hod lik nasielnictva pavinien byŭ pavialičycca na 39 miljonaŭ, a sioleta ŭsich žycharoŭ musieła-b być nia 170, a 200 miljonaŭ. Z hetaha vidać, što abo savieckaja statystyka vielmi nia točnaja, abo pryrost nasielnictva ŭ SSSR strašenna źmienšyŭsia, bo za 13 hadoŭ prybyło na 160 mil. usiaho 9 mil. novych žycharoŭ, a heta šmat havoryć... — Treba skazać urešcie, što i ŭ 1937 h. byŭ śpis nasielnictva ŭ SSSR, ale jon unievažnieny, bo pavodle jaho nie chapała 22 mil. žycharoŭ, a sioleta nie chapaje ŭžo 30 miljonaŭ.

**Strašennaja bura ŭ Amerycy.** 16.IV siol. nad štatam Texas u Amerycy praniasłasia strašennaja bura, u časie jakoje zhinuła 47 asob i bolš 200 raniena. Miž inšym u m. Collins bura sarvała strachu z kaścioła. Z hetaj-ža pryčyny kaścielny mur zavaliŭsia a pad im znojdziena bolš 30 čałaviek zabitych, jakija malilisia tam.

## ШТО ЧУВАЦЬ

—Нутранае жыцьцё **Польшчы** йдзе апошнім часам пад клічам зьбіраньня ахвяраў і пазыкаў на абарону краю. Каля гэтае справы аб'ядналіся ўсе палітычныя польскія партыі. Палітычныя эмігранты Вітас, Кернік і Багінскі, якія нядаўна вярнуліся з заграніцы, пасьля прабыцьця некалькіх дзён у вастрозе выпушчаны ўжо на волю. Звольнены так-жа з Картускай Бярозы рэд. віл. „Слова" Ст. Мацкевіч, але даў ён забавязаньне, што да 24.IX.39 г. зн. на 6 месяцаў устрымаецца ад усякай публіцыстычнай, газэтнай і палітычнай дзейнасьці.

—„Кур'ер Віленскі" (№ 101 з 13.IV) у артыкуле „Чаго ад нас дамагаліся Немцы" піша, што **Нямеччына** пасьля заняцьця Клайпэды **дамагалася ад Польшчы Гданска і дазволіць правясьці аўтастраду праз Памор'е ў Усходн. Прусію.** Польшч на гэта не згадзілася і наступіла польска-ангельска-францускае зьбліжэньне, замацаванае дэклярацыямі ў часе, калі мін. Бэк быў у Лёндыне. Нямеччына, ясна, з гэтага незадаволена. Дзеля таго, далей піша „Кур. Віл.", адносна Польшчы мае быць тасаваная такая тактыка, як да Чэхаславаччыны, г. зн. на вычарпаньне нэрваў і фінансаў праціўніка. „Мы ня маем патрэбы наладжваць мабілізацыі — кажуць Немцы. Няхай гэта робяць іншыя. Гэта будзе ім так дорага каштаваць, што за некалькі месяцаў Англія адкажацца ад фінансаваньня гэтых выдаткаў."

— Ня гледзячы на гэта, фактам аднак ёсьць, што **Нямеччына** мае пад зброяй вялікую колькасьць войска. Ня ведае ніхто толькі яе плянаў — куды цяпер Немцы пойдуць і чаго далей будуць дамагацца. Газэты робяць розныя дагадкі, але яны часта супярэчныя з сабою. Вось напрыклад „Работнік" у № 108 з 18.IV на аснове Венскае нямецкае газэты „Фолькішэр Бэобахтэр" (5.IV) піша, што Нямеччына думае рабіць „парадак" на Усходзе фэдэралізуючы славян, бяручы пад увагу між іншымі і Беларусаў і Украінцаў. Праз некалькі дзён той-жа самы „Работнік" падаў весткі, што **Гітлер хоча заключыць з Сталінам дагавор аб ненападаньні,** да чаго быццам даўно ўжо Сталін так-жа імкнецца. Побач гэтага паяўляюцца весткі, што цяпер **Нямеччына мае пачаць сваю дзейнасьць на Захадзе Эўропы.** Весткі такія моцна ўстрывожылі **Англію, Францыю, Бэльгію, Галяндыю, Данію, Швайцарыю** і ўсе гэныя гаспадарствы змабілізавалі свае арміі. І сапраўды, на Захадзе і на Міжземным Моры штосьці робіцца.

— Заняцьце **Італіяй Альбаніі,** на Міжземным Моры выклікала згуртаваньне большае колькасьці (больш 200 розных ваенных караблёў) ангельскае флёты. Некаторыя думалі, што Італія пойдзе на **Югаславію, або Грэцыю, а Нямеччына з Мадзяршчынай на Румынію і Баўгарыю.** Дзеля таго Англія заявіла, што яна і Францыя будуць памагаць **Румыніі, Баўгарыі і Грэцыі,** ды пачала перагаворы з **Турэччынай,** каб заключыць з ею саюз і мець свабодны праезд праз Дарданэлі на Чорнае Мора. Турэччына быццам на гэта згадзілася. Немцам і Італіі, паводле найнавейшых вестак, быццам удалося перацягнуць на сваю старану Югаславію, а ў Турэччыну і Баўгарыю Гітлер выслаў сваіх новых дыплёматаў, якія і гэныя гаспадарствы будуць старацца перацягнуць на свой бок.

— Адначасна паўстала трывога ў Гібралтары. **Гішпанія** афіцыяльна прыступіла да восі Рым-Бэрлін. Разышліся чуткі, што мае яна заняць Гібралтар, якім валадарыць Англія, ды францускую калёнію ў Афрыцы — Мароко. Наколькі гэтыя весткі праўдзівыя, няведама. У кожным разе 18.IV **выехала на гішпанскія воды на Міжземным Моры нямецкая эскадра ваенных караблёў у сіле 40 адзінак** Англія ўзмацніла сваю крэпасьць у Гібралтары і прыбыло туды **некалькі дзесяткаў адзінак ваеннае францускае флёты.** На Міжземнае Мора выслалі частку сваіх ваенных караблёў **Злуч. Штаты Паўночнай Амэрыкі.** Усьлед за амэрыканскай флётай паехала на Міжземнае Мора і **ваенная флёта японская.**

— У той-жа дзень, 18.IV, калі Нямецкая флёта выяжджала на гішпанскія воды, у францускім порце Гаврнехта падпаліў адзін з найбольшых францускіх гандлёвых караблёў „Paris." Пажар зрабіў вялікія шкоды і карабель затануў.

— **Прэзыдэнт Зл. Шт. Паўночнай Амэрыкі,** бачачы неспакойнае палажэньне ў Эўропе, **выслаў Гітлеру і Мусоліняму тэлеграму,** у якой заклікае іх, каб далі слова, што не нападуць на: Фінляндыю, Эстонію, Латвію, Літву, Швэцыю, Норвэгію, Данію, Голяндыю, Бэльгію, Португалію, Францыю, Англію, Гішпанію, Швайцарыю, Ліхтэнштайн, Люксэмбург, Польшч, Вугрыю, Румынію, Югаславію, Баўгарыю, СССР, Грэцыю, Турэччыну, арабскія дзяржавы: — Сырыю, Палестыну, Эгіпт, Пэрсію, Ірак — і Ірляндыю, ды згадзіліся склікаць сусьветную канфэрэнцыю, якая магла-б рашыць усе міжнародныя споры без вайны. Прэзыдэнт Рузвэльт прасьцерагае Нямеччыну і Італію, што будучая вайна будзе страшнай сваімі насьледкамі ня толькі для пераможаных, але і для пераможцаў. Да гэтай тэлеграмы далучыліся ўсе дзяржавы амэрыканскага контынэнту.

**Мусоліні** на прамову Рузвэльта **адказаў,** што Італія ня хоча на нікога нападаць. **Гітлер** адкажа 28.IV.

— **Кітайцы** адабралі ад Японцаў больш 500 местаў і мясцовасьцяў.



**Ангельскія ваенныя караблі на Міжземным Моры**

Pierasyłka apłačana ryčałtam.









## Ня зыйдзем з добрае дарогі!

**в. Как-цы, Слонімскі пав.** Жыцьцё нашае вёскі праходзе ціха і манатонна, як тыя хмаркі, што плывуць па небе. Моладзь нават мае ахвоту да самаасьветы, але кожная спроба да гэтага сустракае шмат цяжараў. Аднак нягледзячы на нядобрыя абставіны, утрымаліся мы на высокім узроўні ў параўнаньні з другімі вёскамі. Ня чужая нашай моладзі ёсьць кніжка і газэта. Не зракліся мы роднае мовы, песьняў і звычаяў. У нас ладзіліся вечарыны, сяньня аднак ня можам дастаць на іх дазволу. Аб беларускіх прадстаўленьнях асталіся ў нас глыбокія і прыгожыя ўспаміны. Міма цяжкога палажэньня, не зрачомся свайго і не паддамося ніякім чужым уплывам!

**С—чок.**

## Моладзь зьліквідавала «Коло Млодэй Всі»

**Ярашычы, Наваградзкі пав.** У мінулым 1938 годзе сарганізавалася ў нас „Коло Млодэй Всі". На другі дзень Вялікадня было ўжо наладжана беларускае прадстаўленьне. Сёлета на беларускае прадстаўленьне гэтае-ж „кола" дазволу не атрымала. Дзеля таго моладзь (сябры „кола") зьліквідавала яго. Агулам моладзь наша, хоць не праяўляе вялікае дзейнасьці на беларускай ніве, але моцна трымаецца свайго. Горш крыху з старэйшымі, якія называюць сябе „рускімі". Не да старэйшых аднак, а да моладзі належыць будучыня!

**У. К—ко.**

## Выбары ў валасную раду

**Гарадзецкая вол., Беластоцкага пав.** Выбары ў нас адбыліся даволі дзіўна. Былі два сьпіскі: озонаўскі і беларускі. На сьпісках выстаўлена па 13 радных і гэтулькі-ж заступнікаў. Калі прыйшлося да галасаваньня, дык паўнамоцніку беларускага сьпіску радзілі озонаўцы пайсьці на ўгоду. Наш аднак паўнамоцнік ад гэтага адказаўся, гаворачы—няхай людзі вырашаць самі пры урне, каго хочуць." Тады пачалося галасаваньне, а калі прыступілі да аблічаньня галасоў, дык нашага паўнамоцніка папрасілі выйсьці, а калі ня выходзіў, дык узялі і выкінулі яго. — Вынік выбараў пасьля быў абвешчаны і паводле яго Беларусаў выбрана толькі трох, а рэшту мандатаў атрымалі озонаўцы. Сялянам гэта не падабалася і падалі пратэст да паветавага старасты. Пасьля гэтага прыехала да нас паліцыя і пачала пытаць, хто падаў пратэст у справе выбараў. Сяляне прызналіся, што яны падалі пратэст і расказалі, як адбываліся выбары. Які будзе вынік пратэсту, пакуль-што ня ведама.

**А. Гарт.**

## Беларускае прадстаўленьне

**Падлесьсе, Баранавіцкага пав.** Мясцовая беларуская моладзь наладзіла сёлета ў другі дзень Вялікодных сьвятаў, 10 красавіка, беларускую спэктакль-вечарыну. Адыграна была п'еса Міхася Машары „Лёгкі хлеб". Артысты-аматары ролі свае выканалі ўдала; улажылі яны таксама вельмі шмат працы ў падгатоўку да спэктаклю. Пасьля прадстаўленьня, на катораe сабралася цэлая процьма моладзі і старэйшых, адбылася вясёлая вечарына. Працягнулася яна ў поўным парадку аж да раніцы. Пажадана, каб гэткія культурныя імпрэзы можна было ладзіць часьцей.

**К.**

## Kuplajuć sol

**Jałaŭka, Vaŭkavyskaha pav.** Apošnija mižnarodnyja padziei — zaniaćcie Niamieččynaj Čechii i Kłajpedy — adhuknulisia recham i ŭ našych vioskach. Pierad usim uzmocnilisia hutarki ab vajnie, jakoj faktyčna vioska nie baicca, a na ŭsiaki vypadak pačali ludzi kuplać bolšyja zapasy soli. Niekatoryja dni pa našych miastečkaah raskuplivali ŭsiu sol, jakaia była, z čaho asabliva ciešylisia kramniki i pryvozili novyja transparty. Nia hledziačy na ŭsio niejkaha specyjalnaha strachu ci paniki niama.

**V. Mir.**

## Саматугам на сьвятлейшы шлях

**Чэрэса, Браслаўскага пав.** Як кветкі да сонца, пнецца наша моладзь на шлях культурнейшага жыцьця. Вузкі, праўда, гэты шлях. бо што-ж пачнеш рабіць без сваей культурнай арганізацыі, ды ў дадатак яшчэ, калі на выпісваньне беларускае прэсы, катораяя зьяўляецца адзіным сьветачам нашай сялянскай моладзі, некаторыя глядзяць як на праступак. Ня гледзячы на ўсё, моладзь наша горнецца да культурнай працы і маніцца ў найбліжэйшым часе наладзіць беларускае прадстаўленьне. Дык памажы Божа ў добрай культурнай працы!

**П. С.**

## Падзяка

Будучы калекам і безработным, прыходзілася мне шмат гараваць. Хацеў я вучыцца, але ня было за што, а воласьць наша (ў Горадзеншчыне) не дала мне помачы. Але вось дзякуючы „Шляху Моладзі" і Грам. П. Асіповічу, я атрымаў працу, з якой вельмі задаволены. Гэта мяне яшчэ больш пераканала, што свая беларуская прэса і інтэлігенцыя найлепш дбаюць аб сваіх людзях — Беларусах, аб сваім Народзе.

Дзеля таго, шчыра дзякую Рэдакцыі „Шляху Моладзі" і Грам. Паўлу Асіповічу за іхнія стараньні і дабрату.

**Рыгор Жывалеўскі.**

Маладэчаншчына.

**V. Kryvičaninu:** Pišmo Vaša, jak bačycie, drukujem, pašyryŭšy krychu hieohrafičnyja danyja. Prosim pisać čaściej. Pryvitańnie!

**M. Siećku:** Vieršy, nažal, słabyja i da druku nie padchodziać. Moža jaki adzin papravim i nadrukujem. Treba Vam lepš paznać biełaruskuju hramatu i bolš čytać bieł. knižak, bo zdolnaści da piara majecie, ale treba ich raźvivać. Prosim tak-ža pisać karespandencyi z žyćcia ŭ vašaj staroncy.

**St. Mich.** „Šlach Mol." vysyłajecca Vam akuratna. Damahajciesia na pošcie.

**Я. Вількоўшчыку, Г. Новік, Я. Чорнаму, Курыльчыку і Кату:** Адказ будзе пісьмом.

**Ул. Гарту:** З усіх вершаў адзін — аб лазе — паправіўшы надрукуем. Рэшта, а так-жа і проза, не адказваюць мастацкім вымаганьням.

**М. Базылюку:** Вершы атрымалі. Дзякуем. Надрукуем у наступных нумарох.

**П. Сушко:** Зборнік нішто-сабе, хоць патрабуе шмат паправак. Пакульшто будзем друкаваць пакрысе, пачынаючы ад наступнага нумару. Бо на выданьне зборніка ня маем матарыяльных магчымасьцяў. Калі-ж ня будзе вялікіх перашкодаў, дык мо' зробім адбітку. Карэспандэнцыю, як бачыце, друкуем. Трэба было-б Вам паглыбіць сваю веду з галіны беларусаведы, асабліва пазнаць добра бел. грамату і літаратуру. Прывітаньне!

**М. Асоту:** „Цярністы шлях" слабы перад усім з боку мастацкага; заблытаная акцыя. Слабыя таксама і вершы. Просім пісаць карэспандэнцыі.

**А. Сучку:** Матарыялы атрымалі. Дзякуем. Як бачыце, ужо карыстаем. Поступ, бязумоўна, ёсьць, з чаго вельмі цешымся і жадаем далейшага разьвіцьця.

**У. К—ко:** Карэспандэнцыю друкуем і просім пісаць часьцей.

**А. Гац.:** Новыя вершы атрымалі. У меру магчымасьці будзем друкаваць.

**У. Жыв.:** Пісьмо і грошы атрымалі. Просьбу спаўняем. Кніжкі высланыя.

## Uvaha! Uvaha!

**Dasiul mnohija z našych čytačoŭ nie apłacili jašče padpiski na 1939 h., dziela taho ŭsich vietliva prosim zrabić heta jak najchutčej, bo ŭ praciŭnym vypadku dalejšaja vysyłka „Šlachu Moładzi" budzie im ad 1.V.39 ustrymana.**

**Pamiž akuratnymi padpiščykami buduć razlasavany cennyja premii.**

*Administracyja „Šlachu Moładzi"*

*„Шлях Моладзі" друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Wydawca: „Biełpres". Выдавец: „БЕЛПРЭС". Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.